


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 17 (206) ЛІСТАПАД 2015 ГОДА

БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА

**Не ўсе сабакі кусаюць, што брэшуць**

УШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ

## АКЦЫЯ СКОНЧЫЛАСЯ ЗАТРЫМАНЬНЕМ УДЗЕЛЬНІКАЎ

**29 кастрычніка – дзень памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсіяў. Правядзеньне ў гэты дзень несанкцыянаванай мясцовымі ўладамі акцыі ў Гарадку была спыненая міліцыянтамі праз дваццаць – дваццаць пяць хвілін ад яе пачатку. Акцыю ладзіў старшыня Віцебскай абласной арганізацыі партыі БНФ Леанід Аўтухоў.**

Імпрэза праводзілася у цэнтры гораду, насупраць гарвыканкаму, у сквэры ля помніку літаратурнаму герою палясоўшчыку Тарасу з твору Канстантына Веранціна «Тарас на Парнасе». Ля падножжа помніку ў памяць рэпрэсаваных беларусаў Леанід Аўтухоў запаліў некалькі зьнічак і разгарнуў бел-чырвона-белы сьцяг, а пасьля пачаў чытаць загадзя падрыхтаваны тэкст, у якім распавядаў пра падзеі 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя.

Акцыя распачалася а 17-й гадзіне, якраз у той час, калі людзі вярталіся з працы. Але ніхто, апроч знаёмай Леаніда Аўтухова Алены Радкевіч, спыніцца побач зь ім так і не наважыўся. Відавочную цікавасьць да акцыі праявіла група падлеткаў, спыніцца якім, аднак, не дазволіла жанчына, што іх суправаджала. У хуткім часе, відаць, дзякуючы тэлефоннаму званку нейкай пільнай асобы да пікету пад'ехалі два міліцыянты, якія і даставілі спадара Леаніда і спадарыню Алену ў мясцовы міліцэйскі пастарунак.

Ня здолеўшы знайсьці ў горадзе перакладчыка, які добра валодаў бы беларускай мовай, прыблізна праз гадзіну пасьля затрыманьня супрацоўнікі праваахоўных органаў адпусьцілі актывістаў без складаньня пратаколу.

Вось што сказаў Леанід Аўтухоў з нагоды праведзенай ім акцыі:

«Сёньня знакавая дата для кожнага сьвядомага беларуса. Чорная дата. У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 году савецкія акупанты зьнішчылі за адну ноч больш за сто прадстаўнікоў беларускай эліты: навукоўцаў, літаратараў, дзяржслужбоўцаў...Нацыі была нанесеная незаменная страта, якая адгукаецца аж дагэтуль. Кожны беларус мусіць памятаць і шанаваць гэты дзень гэтак, як габрэі памятаюць і шануюць Галакост. Таму я лічу сваім абавязкам нагадаць тутэйшым людзям і тутэйшай уладзе пра гэтую чорную дату, бо апошнім часам насельніцтву праз сродкі масавай інфармацыі накідваюцца настальгічныя настроі па часох Савецкага Саюзу. І гэта жахлівая, бо больш тэрарыстычнага, бандыцкага рэжыму ў сусьветнай гісторыі папросту не існавала. Але сёньняшняе пакаленьне пра гэта амаль нічога ня ведае. Вяртаньня назад быць не павінна, таму я тут і стаю: хай людзі ведаюць, хай падумаюць і палезуць у інтэрнэт, каб даведацца, што за падзею сёньня ўшаноўваюць. Тут, у Гарадку, нямала людзей з гэткімі ж, як у мяне, перакананьнямі, але ў сілу вядомых прычынаў я нікога зь іх сюды не запрашаў».

**Віцебская вясна**
**vitebskspring.org**



БАНКРУЦТВА

## РАПЗ ПРЫЗНАЎ СЯБЕ БАНКРУТАМ

**Гарадоцкі райвыканкам, галоўны трымальнік акцый ААТ "Гарадоцкі РАПЗ", прызнаў сваю няздольнасць далей кіраваць прадпрыемствам і прагаласаваў за заяву аб банкруцтве.**

21 кастрычніка адбыўся пазачарговы сход акцыянераў ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" на якім было прынята рашэнне аб звароце ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" ў эканамічны суд з заявай аб эканамічнай недзеяздольнасці даўжніка. Гэтай працэдурай распачаўся афіцыйны працэс прызнання буйнейшага сельгаспрадпрыемства раёна банкрутам.

Створанае на базе Гарадоцкай райсельгастэхнікі напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя акцыянернае таварыства на працягу дзесяцігоддзя ўключыла у свой склад тэрыторыю амаль трэці зямель раёна. Галоўным акцыянерам прадпрыемства стаў Гарадоцкі райвыканкам, а кіраўнікамі прадпрыемства былі звычайна асобы набліжаныя да старшынь райвыканкаму: то Анатоля Мароза, то Васіля Муранкова.

Толькі гэтая набліжанасць дазваляла хранічнаму даўжніку перадкрэдыторамііатрымлівацьусё новыя крэдыты, якія вяртаць даўно не стала ўжо чым. Крэдытная гісторыя прадпрыемства асобая песня. Па нашай інфармацыі на час прыняцця заявы аб банкруцтве запазычанасць па крэдытах ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" прывысіла 100 мільярдаў рублёў. А гэта – трэць усіх даўгоў Гарадоцкага раёна.

Пытанне аб звяртанні ў эканамічны суд планавалася разгледзіць яшчэ 7 кастрычніка, але "лёсавызначальны" дзень 11 кастрычніка – фініш прэзідэнцкай кампаніі – адсунуў пытанне на два тыдні пазней. І нягледзячы на тое, што на галасаванні была амаль 100% наведвальнасць участкаў размешчаных на тэрыторыі прадпрыемства. Ды і па афіцыйных лічбах працаўнікі з жабрацкімі заробкамі амаль аднадушна галасавалі за аднойчы абранага кіраўніка, але рэаліі жыцця аказаліся больш суровымі, чым "аптымізм" працаўнікоў-выбаршчыкаў і вымусілі заявіць аб бакруцтве.

Цяпер прадпрыемства ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" чакае доўгая працэдура ліквідацыі, якая можа расцягнуцца на 3-4 гады, а працаўнікоў -- незайздроснае жыццё на прадпрыемстве банкруце.

Відавочна, што гэта першая ластаўка банкруцтва ў раёне, але не апошняя сярод сельгаспрадпрыемстваў Гарадоччыны. На падыходзе да крытычнай мяжы таксама і ААТ "Гарадоцкі льназавод", і іншыя сельгаспрадпрыемствы раёна, якія амаль увесь 2015 год зацягвалі з разлікамі па заробках.

**Леанід Гаравы**

МАЁМАСЦЬ

## 14 ДОМОВ ПРОДАЛИ НЕЗАКОННО

**Четырнадцать домов, построенных с помощью господдержки, были проданы в обход закона. Жилье принадлежало ОАО «Городокский райагропромснаб» и было построено для работников данной организации за счет льготных кредитов банка. Уголовное дело возбуждено против бывших директора и главного бухгалтера. Про это пишет газета "Рэспубліка"**

Доля государства в уставном фонде этой организации свыше 99 процентов. В таких случаях для продажи необходимо решение общего собрания акционеров. Кроме того, стоимость должна быть утверждена наблюдательным советом. Этих «формальностей» в Городке решили избежать. Цену определили не в соответствии с рыночной, а исходя из затрат на строительство. В итоге общество потеряло 1,3 миллиарда рублей. А вот с документами полный порядок. И решение несуществующего собрания есть, и цена якобы рассчитывалась в соответствии с законом.

Начальник отдела контроля государственной собственности КГК Витебской области Вадим Волович раскрывает подробности: — В домах, которые продавались в обход закона, жили как рядовые сотрудники, так и бывшие директор, главный инженер, главный бухгалтер, другие должностные лица. Продаже жилья с нарушением требований законодательства и по заниженной стоимости способствовал и работник райисполкома, который подписал несколько сфальсифицированных протоколов общего собрания акционеров. На достоверность расчета цен он также внимания не обращал. Интересно, что даже при таких условиях новые собственники умудрились стать должниками — они не перечисляли платежи за купленные в рассрочку дома.

Да этого никто и не требовал, несмотря на сложное финансовое положение самой организации. В прошлом году Городокский райагропромснаб получил чистый убыток почти в 12 миллиардов рублей, за первое полугодие нынешнего — 2,5 миллиарда. Возврат денег за жилье мог бы уменьшить этот нелегкий груз. Тем более что речь идет не о простых трудягах. В числе главных должников — бывшие руководители и главные специалисты райагропромснаба. В КГК отметили, что все виновные лица в этой истории будут наказаны, нынешний директор, как и сама организация, оштрафован. Материалы проверки переданы в правоохранительные органы — там определят степень вины всех участников нечестной по отношению к государству и обществу сделки.

Управлением Следственного комитета по Витебской области уже возбуждено уголовное дело в отношении бывших директора и главного бухгалтера — за злоупотребление властью и служебными полномочиями.

**Елена Бегунова**
**"Рэспубліка"**

### Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварaецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ФІНАНСЫ

# ФІНАНСАВАЕ СТАНОВІШЧА ЗНАЧНА ПАГОРШЫЛАСЯ

**Праведзеная рэканструкцыя Гарадка да "Дажынак –2014" толькі паскорыла крызісныя з'явы ў фінансавым становішчы раёна, набліжаючы яго да банкруцтва.Нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў па выніках' трох кварталаў 2015 года пра паглыбленне крызісных з'яў у фінансавым становішчы прадпрыемстваў Гарадоцкага раёна.**

І калі годам раней страты арганізацый ад іх дзейнасці дасягнулі 49,1 млрд. руб., то ў гэтым годзе за дзевяць месяцаў ужо сталі -83,7 млрд. руб. пры адмоўнайрэнтабельнасціў3,4%. Пры гэтым прадпрыемствы раёна ніяк не могуць атрымаць грошы за свае тавары і паслугі ўжо ў памеры ў 37,3 млрд. руб., што больш чым у два разы за пакасчык мінулага года.

Адначасова з гэтым пратэрмінаваная крэдыторская запазачынасць па набраных крэдытах павялічылася за год з 201,9 млрд. руб. да 306,9 млрд. рублёў., а непасрэдна пратэрмінаванасць па крэдытах і займах у арганізацыях раёна павялічылася больш чым у тры разы: з 16,8 млрд. руб. да 54,7 млрд. руб..

Падобныя негатыўныя з'явы сталі таксама назірацца і ў суседніх раёнах: Віцебскім, Полацкім, Шумілінскім, дзе арганізацыі таксама пачалі працаваць са стратамі і рэзка павялічыліся пратэрмінаваныя даўгі па дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасцям. І гэта ўжо рэальны крызіс, які імкліва паглыбляецца пры нежаданні кіраўніка краіны праводзіць структурныя рэформы ў эканоміцы Беларусі.

**Л. Антонаў**

НАШЫ ЗАРОБКІ

# ЗНОЎ НЕ РАЗЛІЧВАЮЦЦА З РАБОТНІКАМІ

**Толькі на пачатку кастрычніка Нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў, што ў краіне адсутнічае запазычанасць па заробках. Пасля фінішу прэзідэнскай кампаніі ў краіне аднавілася практыка запазычанасці па заробках.**

Па выніках кастрычніка Нацстаткамітэт паведаміў, што ў 111 прадпрыемстваў краіны існуе пратэрмінаваная запазычанасць па заробках у памеры 52,4 млрд. рублёў. Пры гэтым большая доля запазычанасці прыходзіцца на 78 прадпрыемстваў Віцебскай вобласці – 25, 346 млрд. руб.. Няма запазычанасці пакуль у прадпрыемстваў Магілёўскай і Брэсцкай вобласцяў.

Сярод галінаў нацыянальнай эканомікі найбольшая запазычанасць у 95 прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу – 33,57 млрд. рубл., потым у прамысловасці – 17,435 млрд. руб і будаўніцтве – 895 млн. рубл..

На Гарадоччыне запазычанасць зноў маюць хранічныя даўжнікі – ААТ "Гарадоцкі льназавод", ААТ "Гарадоцкі РАПЗ", КУСГП "Сцяпанавічы, КУСГП імя Дзімітрава, КУСГП імя Свердлава, у якіх яны валявым метадам зінкла толькі перад галасаваннем за аднойчы абранага кіраўніка.

Сярод раёнаў Віцебшчыны найбольшая колькасць даўжнікоў у Докшыцкім раёне – 9, Шумілінскім, Глыбоцкім раёнах – па 6 прадпрыемстваў.

**Л. Антонаў**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# МЕЛІЯРАЦЫЙНЫЯ ЗЕМЛІ ЗАРАСТАЮЦЬ ХМЫЗНЯКОМ

**Дзяржкантроль Віцебскай вобласці пры праверцы стану міліярацыйных зямель у Гарадоцкім раёне выявіў, што больш паловы гэтых зямель у КУСГП "Сцяпанавічы" не выкарыстоўваліся і зараслі хмызнякамі.**

Па інфармацыі газеты "Гарадоцкі веснік" Дзяржкантроль Віцебскай вобласціўверасні–кастрычніку праводзіў праверку тэрыторый шасці сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Віцебскай вобласці, ў тым ліку і КУСГП "Сцяпанавічы" Гарадоцкага раёна. Пры праверцы тэрыторый было выяўлена, што значныя тэрыторыі Гарадоцкага, Сенненскага, Вушацкага і Мёрскага раёнаў зараслі пустазеллем, а ўцільныя шыны, металалом, вузлы ад спісанай тэхнікі не складзіраваны ў адведзеных месцах.

Пры гэтай праверцы выяўлена, што на меліярацыйных 1510 га КУСГП "Сцяпанавічы" не выкарыстоўваецца 813 га, якія зарслі хмызняком. Так у меліярацыйнай сістэме "Чырвоны мох" не выкарыстоўваецца 326 га з 641 га меліярацыйных зямель, а ў сістэме "Камуніст" 487 га з 869 га меліяраваных зямель.

Дзяржкантроль накіраваў інфармацыю аб выяўленых парушэннях у Гарадоцкі райвыканкам для прыняцця мер рэагавання і прыцягнення да дысцыплінарнай адказнасці віноўных адказных асоб.

**Т. Гаражанка**

ГРАМАДСКІ ТРАНСПАРТ

# ЗАРАЗ БУДЗЕ ДАХОДЗІЦЬ ДА ВАЙСКОВАЙ ЧАСТКІ

**З лістапада месяца часткова зменены графік руху гарадскога аўтобуса на двух маршрутах у будній дні. Пра гэта паведаміў "Гарадоцкі веснік". Расклад руху гарадскога аўтобуса.**

31 кастрычніка "Гарадоцкі веснік"надрукаваўновырасклада руху гарадскога аўтобуса, які рухаецца па двух маршрутах.

Змены датычацца найперш таго, што гарадскі аўтобус праз вёску Прудок будзе рухацца ў вайсковую частку. Гэта будзе адбывацца раніцай, у абед і пасля працы.

Так раніцай, рухаючыся з чыгуначнага вакзала у 6.54 аўтобус па раскладу №2 будзе даезджаць да вайсковай часткі ў 7.19 і адтуль , як і раней будзе даязджаць да райбальніцы. У абед аўтобус па раскладу №1 з Гагарына ў 14.30 накіруецца на Прудок і да вайсковай часткі, дзе будзе ў 14.48. Пасля гэтага у яго будзе перапынак да 1613, калі пачнецца рух з Гагарына. Адпаведна адменены яго рэйсы з Гагарына на 15.18, Бальніцы на 15.36 і з Вакзала на 15.53.

Вечарам пасля працы аўтобус па маршруту №2 з Гагарына ў 17.22 будзе рухацца ў вайсковую частку, а адтуль у гараж. Адпаведна адменены яго рэйсы з Вакзала на 18.03 і Бальніцы на 18.19.

У астатнім рэйсы аўтобусаў застануцца ранейшымі.

**Л. Антонаў**

ЗДАРЭННЕ

# ПА АДБІТКАХ ЗНАЙШЛІ ЗЛАЧЫНЦА

**Дактыласкапія дапамагла знайсці злачынцаў, якія скралі з дачнага доміка два ровары.**

Паводле інфармацыі прэсслужбы Віцебскага абласнога ўпраўлення МУС 3 лістапада ў Гарадоцкі РАУС звярнулася грамадзянка РФ пенсіянерка 1944 года нараджэння, жыхарка гор. Мурманска. Пенсіянерка паведаміла, што ў перыяд з 25 па 29 кастрычніка неўсталяваны злачынец, разбіўшы шыбу, пракраўся ў яе дачны дом, размешчаны ў вёсцы Якушанкі. Злачынеці здзейсніў крадзеж двух ровараў "Стэлс" і "Кельт", прадуктаў харчавання і грошаў, зрабіўшы шкоду на 6 млн. рублёў.

З выкарыстаннем аўтаматызаванай дактыласкапічнай ідэнтыфікацыйнага сістэмы (АДІС) "Дакто 2000", якая прызначана для вядзення дактыласкапічных улікаў і ажыццяўлення праверак слядоў рук, канфіскаваных з месцаў нераскрытых злачынстваў, па масівах дактылакарт асоб, якія стаяць на дактыласкапічнай ўліку ў экспертна-крыміналістычных падраздзяленнях (ЭКП), а таксама аператыўна-даведачных дактыласкапічных улікаў інфармацыйных падраздзяленняў сістэмы праваахоўных органаў, папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейснілі непрацуючыя. Гэтымі непрацуючымі аказаліся: раней судзімы за разбой жыхар раёна 1974 года нараджэння і жыхар Віцебска 1963 года нараджэння.

Гарадоцкі раённы адзел следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па ч. 2 арт. 205 КК.

**Л. Антонаў**

# БРОДЯЧАЯ СОБАКА НАПАЛА НА ДЕВОЧКУ

**В г.п. Езерище бродячая собака напала на воспитанницу приюта. В отношении 57-летнего воспитателя социально-педагогического центра возбудили уголовное дело. Педагога подозревают в ненадлежащем исполнении должностных обязанностей по обеспечению безопасности жизни и здоровья детей, пишет «СБ Беларусь Сегодня».**

Семилетнюю Аню (имя ребенка изменено) вместе с братом забрали в приют за месяц до несчастья. Детей признали нуждающимися в защите государства, так как их мать вела аморальный образ жизни. В тот день ребята перед ужином вместе с педагогом вышли на детскую площадку. Неподалеку на стадионе деревенские ребятишки гоняли в футбол.

Местные часто заглядывали и во двор приюта — здесь оборудован хороший игровой городок. Воспитанники социально-педагогического центра никогда с ними не ссорились, поэтому педагог не стал препятствовать общению ребят и в этот раз. Но вместе с сельской детворой во двор пробралась собака, которая на стадионе все время крутилась вокруг мальчишек.

Пса в поселке знали, он был бездомным. Воспитатель К., имеющий за плечами около 30 лет педагогического опыта, решил избавиться от непрошеного гостя. Вместе с ребятами постарше выпроводил пса за калитку. Вот только 3–5-летние малыши уже успели испугаться, закапризничали. Воспитатель отвел их в сторонку, чтобы успокоить, и, как объясняет, буквально на пять минут выпустил остальных из виду…

Обернулся на плач девочки, увидел окровавленную Аню. Ребята рассказали: бродячий пес, которого недавно изгнали с территории, через пару минут вновь появился на игровой площадке. Пролез под воротами и укусил малышку.

Заместитель прокурора Городокского района Максим Зиновик рассказывает:

— Ребенка доставили в больницу с раной левой щеки и челюстной области справа. После заживления травм образовались рубцы. Судмедэкспертиза признала шрамы неизгладимыми. Такие повреждения относятся к категории тяжких. Теперь воспитателю грозит до 4 лет лишения свободы и запрет на продолжение педагогической деятельности.

Информацию о происшествии направили в сельсовет. Он обязан принять меры по ликвидации бродячих собак в поселке.

Есть и хорошая новость — недавно Аня вместе с братом вернулись в родную семью. Их мать взялась за ум. Директор социально-педагогического центра Светлана Петушкова считает инцидент непредсказуемой случайностью:

— Территория приюта хорошо ограждена, пес пролез через грузовые ворота. Но ведь он мог и перепрыгнуть забор — это немецкая овчарка. Причем с ошейником. Возможно, ее кто-то завез в наши края или она потерялась. Свою роль, конечно, сыграл человеческий фактор. Несмотря на то что весь персонал и дети были проинструктированы, девочка стала гладить голодную собаку, а воспитатель не сразу среагировал на ее повторное появление. Кстати, он работает у нас на полставки, по состоянию здоровья имеет группу инвалидности.

**Елена Бегунова**
**СБ Беларусь Сегодня**

ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

# ЯК ПРАДАЦЬ СІНЯВОКУЮ СТАБІЛЬНАСЦЬ?

**Жудасныя тэракты ў Парыжы зноў прымусілі скалануцца ўвесь свет. Свет ужо даўно і не да канца асэнсавана ўступіў у новую рэальнасць, калі межы не з'яўляюцца перашкодай для тэрарыстычнай вайны.**

Аналітыкі сходзяцца ў думках, што зараз найвялікшай каштоўнасцю для ўсіх становіцца бяспека, спакой і стабільнасць.

Канешне, шок ад тэрактаў пройдзе — пра «Charlie Hebdo» і мільённыя акцыі салідарнасці з часопісам усе даволі хутка забыліся (што, магчыма, дало глебу да больш маштабнага паўтору сітуацыі). Аднак усё роўна на фоне барацьбы з «ІД», на фоне ўкраінскага канфлікту, амаль даказанага тэракту на борце расійскага рэйса «Кагалымавія» ў Егіпце, наша краіна застаецца выспай той самай бяспекі і стабільнасці, якія, паўтаруся, усё больш каштуюць у свеце.

Эксперты кажуць, што ў выніку парыжскіх падзеяў афіцыйны Мінск пакуль што апынуўся ў выйгрышы. Месяц прайшоў пасля беларускіх выбараў, два тыдні — пасля чарговай інаўгурацыі Лукашэнкі, БДІПЧ АБСЕ яшчэ не паспела стварыць канчатковы даклад па назіранні, а свет пра Беларусь ужо забыўся. Бо ў нас усё ў парадку, у нас не страляюць і не ўзрываюць. У адрозненне, дарэчы, амаль ад усіх нашых суседзяў: Расіі, дзе ўзарвалі самалёт, Украіны з яе Данбасам, ЕС з Парыжам і крызісам уцекачоў.

Ёсць два шляхі дзеяння ў гэтай сітуацыі. Першы: сядзець моўчкі і ганарыцца сваёй стабільнасцю. Шлях другі — паспрабаваць манетызаваць гэтую стабільнасць.

Пакуль беларускія ўлады паспяхова ідуць па першым шляху. Аднак гэтая спрыяльная сітуацыя не будзе цягнуцца вечна. Зазначым, што Францыя пачала ўдзел у паветранай аперацыі ў Сірыі амаль адначасна з Расіяй. Адказ на гэтыя бамбардзіроўкі атрыманы не толькі французамі — расіяне атрымалі тэракт на борце «Кагалымавія», у выніку якога загінулі 224 чалавекі. Зразумела, ні Францыя, ні Расія не пакінуць тэракты без адказу: яны толькі ўзмоцняць аперацыі супраць «ІД». Гэта, канешне, павялічыць пагрозу далейшых тэрарыстычных атак, аднак пакінуць ісламістаў у спакоі — яшчэ найгоршае выйсце.

Пагроза тэрарызму ў Расіі пачне ўзрастаць найперш там, дзе яна мяжуе з ісламскім светам: на паўднёвых межах. Беларусь з Расіяй у адным ваенным блоку — АДКБ. І калі ў саюзніка на поўдні пачнецца «прасочванне» тэрарыстаў, мы абавязаны будзем дапамагчы, — калі нас, канешне, пра гэта папросяць. Галоўнае — дапамагчы так, каб і стабільная і сінявокая потым не стала мішэнню «ІД». Ці трэба выходзіць з АДКБ.

Днямі Аляксандр Лукашэнка абвясціў, што спадзяецца на сустрэчу з Пуціным, каб вырашыць «праблемныя пытанні, калі яны ёсць». Між тым відавочна, што ў Пуціна зараз сваіх пытанняў хапае — і з Данбасам, і з Сірыяй. Думаю, што ў кіраўніка Беларусі ёсць спадзеў: Пуцін дасць загад «разабрацца» з беларускім экспартам і дасць, можа быць, колькі грошай, абы Аляксандр Рыгоравіч у гэты складаны час ад яго адчапіўся, бо не да яго зараз.

У той час, калі расійская авіяцыя найбольш запатрабаваная ў Сірыі, можна адкласці на нявызначаны час і пытанне стварэння ў сінявокай расійскай авіябазы. Прынамсі, гэта адно з найбольш складаных пытанняў у размове з Пуціным для беларускага праваднікі. Бо той сапраўды мае права запытацца ў Аляксандра Рыгоравіча: гаварыў ён ці не гаварыў пра расійскую авіябазу. І чаму адмаўляецца ад сваіх словаў?

Ход канём беларуская дыпламатыя можа зрабіць і ў бок Еўропы. Напрыклад, агучыць ім прапанову прыняць у Беларусі, напрыклад, мільён уцекачоў з Блізкага Усходу. А што? Кіраўнік краіны неаднаразова заяўляў, што ў Беларусі павінна быць не дзевяць мільёнаў, а дваццаць, а тое і трыццаць мільёнаў насельніцтва. Вось мы і прапануем ім за адпаведны ганарар пакінуць сабе пэўную колькасць сірыйцаў.

Гэта даволі бяспечна, таму што тыя ўцекачы ў Беларусь усё роўна не паедуць. Яны імкнуцца ў тыя краіны, дзе моцныя для іх сацыяльныя гарантыі, дзе можна жыць на дапамогу, не працуючы: Швецыя, Германія, Вялікабрытанія, тая ж Францыя. Каб уцекачы шукалі проста спакойнага жыцця, яны б паасядалі ў транзітных краінах: тых жа Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі і іншых. Але яны прагнуць не толькі бяспекі, але і дабрабыту. Беларусь жа ім грошай не дасць — сваім не хапае.

Тым не менш, такая прапанова зробіць профіт беларускаму МЗС на еўрапейскай арэне.

Зразумела, што на гэтым фоне можна яшчэ раз паспрабаваць прадаць Захаду старую байку пра тое, што Беларусь з'яўляецца надзейным шчытом на шляху незаконнай міграцыі з усходняга боку. І, зразумела, не толькі незаконнай міграцыі, а таксама зброі з Усходу Украіны. Заходнія партнёры зараз вельмі ацэньваюць такія высілкі і намаганні — нешта можа абламіцца на мадэрнізацыю мяжы.

Можна яшчэ шмат што прыдумаць. Галоўнае — не марнаваць час магчымых бонусаў нашай стабільнасці.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**




ІНАЎГУРАЦЫЯ

# ДЗЯРЖАВА ДЛЯ НАРОДА

**Падчас інаўгурацыі Аляксандар Лукашэнка выступіў з палымянай прамоваю ў абарону сацыяльнай дзяржавы, на якую нібыта замахнуліся рэфарматары з уладных кабінэтаў. Ён намаляваў вусьцішную карціну, у якой дзеці і старыя бязьлітаснай рукой прыхільнікаў рэформаў будуць кінутыя ў рынкавую стыхію. Але на шляху гэтых бяздушных людзей паўстае як магутны волат народны прэзыдэнт.**

Адгрымелі фанфары, адсьпявалі песьні на ўрачыстым канцэрце, усенародна адсьвяткавалі пачатак чарговага тэрміну прэзыдэнцтва дзейнага кіраўніка. Пачаліся шэрыя будні. І што мы бачым? Аляксандар Лукашэнка пачаў уласнымі рукамі цішком дэмантаваць тую самую сацыяльную дзяржаву, якую ён так апантана абараняў на інаўгурацыі літаральна некалькі дзён таму.

Прэзыдэнцкі ўказ № 460 ад 16 лістапада прадугледжвае скарачэньне дзяржпадтрымкі пры будаўніцтве і куплі жыльля, зьмяншэньне жыльлёвых ільготаў. Так, дзяцям-сіротам і дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў, цяпер будуць даваць сацыяльнае жыльлё толькі на 5 гадоў з правам атрыманьня ільготнага крэдыту на будоўлю сваёй кватэры. Указ прадугледжвае зьмяншэньне памеру фінансавай дапамогі шматдзетным і маладым сем'ям на пагашэньне запазычанасьці па льготных крэдытах пры адмене ўсынаўлення (удачарэньня) дзяцей. Паводле ўказу цяпер дзяржаўныя органы і арганізацыі атрымліваюць права абвяшчаць інтэрнацкае жыльлё кватэрамі і ўключацьіх у склад жыльля камэрцыйнага выкарыстаньня. Менш становіцца катэгорыяў тых грамадзян, якія маюць першачарговае права на камэрцыйнае жыльлё. Скарачаюцца льготы па плаце за карыстаньне камэрцыйным жыльлём. Указ забараняе ставіць у чаргу на жыльлё тых грамадзян, якія маюць жыльлё, прызнанае непрыдатным для пражываньня.

Або возьмем той жа нядаўні дэкрэт № 7, які абкладае 13-працэнтным падаткам даходы ўкладчыкаў ад банкаўскіх дэпазытаў. Афіцыйныя асобы і дзяржаўныя мэдыі, камэнтуючы гэты заканадаўчы акт, акцэнтуюць увагу на тым, што дасюль для беларускіх укладчыкаў былі створаны ўнікальныя льготныя ўмовы. Маўляў, падаткі на ўклады ў суседніх краінах яшчэ нават вышэйшыя і існуюць даўно.

Але варта зазначыць, што Беларусь за апошнія 20 гадоў — рэкардсмэн сьвету па інфляцыі. З 2009 году (за шэсьць гадоў) беларускі рубель дэвальваваўся ў восем разоў (з 2200 да 17880 рублёў за даляр). Гэта ж таксама ўнікальная ў сьвеце сытуацыя. Таму і спатрэбілася трэцяя дэнамінацыя. Зразумела, чаму інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чаканьні ў беларускім грамадзтве такія беспрэцэдэнтныя. Таму ўлады і вымушаныя былі рабіць надзвычайныя захады, каб іх зьбіць, ствараючы льготныя ўмовы для ўкладчыкаў. Гэтыя льготы і ўратавалі фінансавую сыстэму краіны ад поўнага калапсу. Высокія працэнты па ўкладах — гэта інструмэнт ратаваньня даходаў беларускіх грамадзян ад інфляцыі, якая штогод вызначаецца двузначнымі лічбамі. То бок згаданыя высокія працэнты — гэта не празьмерны клопат дзяржавы пра народ, а адзіны рацыянальны спосаб ратаваць неэфэктыўную эканамічную сыстэму. А цяпер у людзей і тое забіраюць. Лягічна, што адным зь відавочных наступстваў дэкрэту № 7 стала падзеньне курсу беларускага рубля. Што, у сваю чаргу, б'е па даходах насельніцтва.

17 лістапада Аляксандар Лукашэнка сустрэўся з кіраўніком місіі МВФ па Беларусі Пітэрам Долманам. Як вядома, Міжнародны валютны фонд у якасьці ўмовы выдзяленьня крэдыту патрабуе поўнай аплаты насельніцтвам камунальных паслуг. І, як ні дзіўна, абаронца сацыяльнай дзяржавы з гэтым пагадзіўся. «Формула адна: атрымліваеш паслугу — плаці за гэтую паслугу ў поўным аб'ёме. Няхай гэта будзе электрычнасьць, цяпло, транспартнае абслугоўваньне і гэтак далей», — сказаў Лукашэнка на гэтай сустрэчы.

Карацей, як любіць казаць Лукашэнка, у нас жа дзяржава для народа.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# "НАСТОЯЩИЙ ВРАГ БЕЛАРУСИ — ОПГ «АПК»"

**Белорусскую экономику захватили в плен аграрные бароны. Колхозно-совхозное лобби продолжает издеваться над Br-рублем, кошельками белорусских потребителей, бюджетом страны и честным бизнесом. Ни одна отраслевая организованная группировка не нанесла Беларуси такой ущерб, как АПК (агропромышленный комплекс).**

Столько лет творить безобразия на белорусской земле, издеваться над крестьянами и фермерами могли себе позволить только те, кто имел самое высокое политическое покровительство.

Недавние аресты бизнесменов, которые обслуживали ресурсные, товарные и денежные потоки сельского хозяйства (сенатор Андрей Павловский и ООО «Биоком», ООО «Консул») — это лишь вершина айсберга. «Кормовое дело» логично дополнить делами о том, как проходила закупка техники, сырья, животных, растений, агростроительство и т.д.

Оценочно, АПК является кормушкой для аграрной VIP-номенклатуры и «красных» помещиков, из которой они ежегодно извлекали в свои личные, семейные капиталы по $2,5-3 млрд. Нет сомнения, что в эту фантастическую по масштабу диверсию против белорусской экономики свой вклад внесли банкиры.

Заметим, что данная волна разоблачений началась 15 месяцев спустя после принятие четырех указов Лукашенко о развитии агропромышленного сектора (17.07.2014). Резкое ухудшение финансовых показателей АПК после принятия этих документов, накопление долгов и неплатежей, рост коррупционных дел — всё это доказывает полное фиаско официальной аграрной политики.

**Аграрная цикута**

Только в 2011-2015 гг. на финансирование госпрограмм оргруппировки «АПК» было выделено ~44 млрд. С 1995 по 2015 гг. аграрные бароны оценочно выкачали из государства около $100 млрд. Сто миллиардов долларов!

Один из официальных лоббистов АПК вице-премьер Михаил Русый признает, что с/х предприятия избалованы государственным попечительством. Они не думают о своем собственном экономическом здоровье. Они используют гораздо более надежный, чем зарабатывание, способ получения денег — прямое выбивание их из бюджета и банков.

Поскольку более чем за 20 лет власти не сформировали правовые и административные механизмы наказания с/х организаций за коммерческие провалы, то у «красных помещиков» не могло сформироваться ответственное отношение к земле и тому бизнесу, который они на ней затеяли.

Совмин и облисполкомы провели анализ деятельности АПК и сделали «неожиданное» открытие: «Часть организаций системы Минсельхозпрода не способна самостоятельно проводить хозяйственную деятельность». «… Убыточные предприятия продолжают штамповать никому не нужный товар в убыток себе. Такого не должно быть».

От «не должно быть» до «не будет» могут пройти десятилетия. Вероятность сохранения штамповки долгов и неликвидов для страны и одновременно многомиллионных капиталов для VIP-аграрных баронов очень высока. Даже если будут упакованы за решетку все руководители оргруппировки «АПК» (как внутри органов госуправления, так и в частном бизнесе) сегодня, через год сама существующая система воспроизведет других, с такими же качественными параметрами.

У каждого начальника есть заместители. У номенклатурных начальников и их партнеров в бизнесе накопились большие свободные ресурсы. Чтобы заинвестировать их в АПК, его нужно очистить от старых начальников и их связей. Именно этот процесс мы сегодня наблюдаем.

**Где деньги, братаны?**

В январе-августе 2015 г. чистая прибыль всего сельского хозяйства составила всего Br2 трлн, что в 2,2 раза меньше в номинальном выражении, чем в аналогичном периоде 2014 г.

Рентабельность продаж по конечному финансовому результату (без господдержки) всего номенклатурного фаворита составило минус 2,5%. Количество убыточных организаций выросло вдвое, а удельный вес убыточных с/х предприятия без господдержки составил 65,6%. Сумма чистого убытка (без господдержки) сельского хозяйства по состоянию на 01.09.2015 г. составило Br3,4 трлн.

Для сравнения: долги по кредитам составили Br54 трлн, просроченные долги по кредитам — Br2,68 трлн. Это значит, что всё сельское хозяйство за январь-август 2015 г. получило чистой прибыли меньше, чем накопило просроченных долгов, а они составляют только 5% от общей суммы задолженности по кредитам. При чистой прибыли всего сельского хозяйства в 2015 г. примерно в объеме $1,7 млрд. сумма только государственной поддержки больше в три раза.

Белорусская ОПГ «АПК» превращает $5 млрд живых денег в $1,7 млрд чистой прибыли. Не удивительно, что вопрос, где деньги, братаны? всё чаще звучит в кабинетах Следственного комитета, КГБ и МВД.

Всякой наглости, жадности и цинизму в условиях «социально ориентированной» белорусской экономики есть предел. Лукашенко в условиях рецессии, падения уровня жизни, роста напряжения в бюджете и банковской сфере не может гладить аграрных баронов и «красных помещиков» по головке и благословлять еще на пять лет омертвления потенциально прибыльного сектора национальной экономики.

**Аграрный передел**

Аграрные бароны не намерены входить в сложное положение бюджета и налогоплательщиков. Они требуют получить свои дотации. При этом они согласны отдать в расход нескольких особо зарвавшихся представителей ОПГ «АПК».

В 2016 году только непосредственно из бюджета М. Русый хочет выбить около $1 млрд. Это только разминка. Общие расходы на поддержку колхозно-совхозного АПК будут $3,5-4 млрд.

Чтобы прикрыть наглые схемы откровенного выманивания денег из бюджета, представители оргруппировки «АПК» обещают «переспециализацию производства и ликвидацию неэффективных видов деятельности». Чтобы быть модным, аграрные лобби обещают внедрение новых технологий и научных открытий. А ещё они обещают «контролируемое досудебное антикризисное управление».

В переводе на понятный язык это будет означать следующее: банки могут забыть о погашении кредитов из АПК. Ликвидировать будут не генераторов убытков, долгов и токсичных активов, а «виды деятельности».

Система управления сельским хозяйством останется прежней. Земля останется вотчиной аграрных баронов и их «красных помещиков». Без неё превращение сельского хозяйства в полноценный бизнес невозможно. Самые влиятельные из них под видом «антикризисного управления» будут присваивать себе самые «вкусные» куски собственности, прежде всего, землю. Разумеется, такого рода дерибан будет проходить при публичном отрицании и осуждении рыночной приватизации.

Лоббисты ОПГ «АПК» сохраняют основные источники получения аграрной ренты: жесткое регулирование цен, государственный заказ, государственное финансирование закупки техники, средств защиты растений и других факторов аграрного производства.

Как очередная угроза макроэкономической стабильности звучит признание М. Русого о том, что в контексте реструктуризации долгов «в настоящее время есть понимание банковской системы сложности финансовой ситуации в отрасли и готовность к конструктивному диалогу».

И здесь уместно указать на тихую деструктивную роль банков. Если верить словам вице-премьера, 68% кредитов сельского хозяйства привлечено на общих основаниях, т.е. под 36-45% годовых в Br-рублях. На погашение основного долга и уплату банковских процентов с/х организации в январе-августе 2015 г. направили 24% своей выручки, а предприятия переработки — около 43%.

Вице-премьер М. Русый формально прав: «…Надо понимать, что ничего списываться не будет, все должно возвращаться — через год, три, семь, но должно возвращаться».

Действительно, никакого списания не будет. Будет реструктуризация долгов, слияние и поглощение, оптимизация ресурсов и сбалансирование потенциала ОПГ «АПК» с новой экономической реальностью. Такова речёвка для населения. На деле место структур типа «Биоком» или «Консул» или просто их собственников и руководителей будет занято новыми фаворитами руководства Вертикали власти. И, понятное дело, никакой коррупции…

*(скарочана)*

**Ярослав РОМАНЧУК**
**"Белапан"**

МЕДЫЦЫНА

# БАТАРЕЙКА В ОРГАНИЗМЕ РЕБЕНКА

**В Полоцке врачи за 9 дней не смогли увидеть в организме ребенка батарейку. Малышка Женя стала инвалидом.**

Против врачей местной больницы, которые занимались двухлетним ребенком, возбуждено уголовное дело за ненадлежащее исполнение профессиональных обязанностей. Мама пострадавшей девочки рассказала TUT.BY подробности этого случая.

«Все началось с того, что 12 августа дочку начало тошнить, она стала плохо кушать. В больнице ей сделали рентген, но батарейки в организме врачи не увидели. Поставили диагноз: простуда. Через пять дней состояние ухудшилось. Сделали второй рентген — и снова не увидели батарейку. Снова диагностировали простуду. То, что в организме инородное тело, врач в Полоцке предположил только через 9 дней — 21 августа, когда ребенок был уже в коме. Спасали Женю минские медики. И им я очень благодарна: они действительно бились за жизнь моего ребенка», — рассказала Екатерина.

По словам молодой женщины, собственными глазами она не видела, как и когда ребенок проглотил батарейку. Но мама подозревала это: «Я купила три батарейки, потом одной недосчиталась. Но медики ее на рентгене не увидели, и мы им доверяли: они же знают, что говорят и делают».

Позже Женя перенесла три операции. «У нее уже нет пищевода, пострадал мозг. Она сейчас как младенец: не говорит, плачет, скрипит зубами, засыпает только на руках. Предстоит еще операция… Мы ищем реабилитационный центр за пределами страны. Я уверена, что все эти страдания моего ребенка — из-за действий полоцких медиков. Уже три месяца мы бьемся за здоровье своей девочки. А ведь Женя была абсолютно здорова, мы собирались через три дня идти в садик…».

Расследование по этому факту ведут сотрудники управления СК по области. Назначена комиссионная судебно-медицинская экспертиза. Министерство здравоохранения должно провести ведомственное расследование.

**TUT.BY**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.11.2015 у 14.20** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.